# Жыве Беларусь!



**№ 6**

**Сьнежань**

**1943**

Вы, маладыя, бярэце у свае рукі беларускі нацыянальны сьцяг. У вас шмат маладой энэргіі і вялікія магчымасьці і вы паводля закону прыроды зоймеце вашае мейсца у грамадзкім жыцьці, у працы і змаганьні. Дык мы цешымся, што нашая зьмена вартая тае гістарычнае часіны, якую мы перажываем, і шлём вам на дарогу самыя найлепшыя і сардэчныя пажаданьні. Расьці, дарагая моладзь, мацней, каб пабудаваць новую, вольную і шчасьлівую Беларусь.

Праф. Вацлаў ІВАНОЎСКІ

*(З прамовы да вышэйшых кіраўнікоў Саюзу Беларускае Моладзі 21.9. 1943)*

ЧАСАПІС ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ МОЛАДЗІ

ВЫДАВЕЦ: М. ГАНЬКО

# ЗАГАД № 26

**Шэфа Кіраўнічага Штабу СБМ**

Гор. Менск — 8 сьнежня 1943 г.

7 сьнежня 1943 г., пранізаны бандыцкаю куляй, закончыў сваё працавітае жыцьцё прафэсар д-р інж. Вацлаў ІВАНОЎСКІ (1880—1943), старшыня сталічнага гораду Менску, старшыня Беларускае Рады Даверу і прэзыдэнт Беларускага Навуковага Таварыства у Менску.

Вацлаў Івановускі быў адным із сэньёраў беларускага адраджэньня. Яшчэ як студэнт супрацаваў у выданьні «Свабоды» і працаваў у выдавецтве «Загляне сонца і у наша ваконца». Пазьней быў адным із арганізатараў Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту і прыносіў на навуковым полі славу і карысьць Беларусі. Дарма што паважны век, ён прыняў на сябе у вызваленай Беларусі шмат цяжкіх і ганаровых абавязкаў і мужна і няўтомна выконваў іх, заўсёды стоячы на варце інтарэсаў Беларускага народу. З асаблівай любасьцю песьціў думку аб аднаўленьні Беларускага Унівэрсытэту. Беларуская сталіца мела у ім у цяжкі ваенны час добрага, поўнага зразуменьня бацьку. Гэтага чалавека навукі, грамадзкага дзеяча і шчырага прыяцеля маладога пакаленьня, не пашкадавалі подлыя выродкі—бандыты, якія забілі яго з-за вугла, абрываючы ягонае, так патрэбнае яшчэ для Беларусі жыцьцё і дзейнасьць.

Саюз Беларускае Моладзі будзе заўсёды шанаваць заслужаную памяць Вацлава Івановускага, як чалавека, які з пагодай духу і адвагай да апошняга працаваў для Беларускага народу на самым адказным становішчы. Дарма што яму даўно належыўся добра заслужаны адпачынак, ён пакінуў, калі гэта спатрэбілася Бацькаўшчыне, супакойную навуковую працу, каб актыўна змагацца на супрацьбальшавіцкім фроньце за волю Новай Эўропы і будучыню Беларусі.

Імя праф. Вацлава Івановускага будуць насіць юнацкія грамады і гурткі, а штогоду, у дзень забавязаньня моладзі, яно будзе успамінацца у шэрагу іменьняў тых, што загінулі за волю і будучыню Беларусі.

М. ГАНЬКО
Шэф-правадмік

Для яго, што стаяў ля калыскі беларускага адраджэньня, было вялікім шчасьцем вітаць нас, маладых, і багаслаўляць нас на дарогу працы і змаганьня за вольную і шчасьлівую будучыню Беларусі. Ягоныя глыбокія пачуцьцёвыя словы мы прынялі як тэстамэнт нашага старэйшага пакаленьня змагароў для нас, моладзі, і прысягнулі сабе у сэрцах— працаваць і змагацца аж да нашае перамогі і зьдзейсьненьня нашых ідэалаў аб вольнай і шчасьлівай Беларусі. Быццам прадчувалася, што гэта былі ягоныя словы перад адыходам у вечнасьць, у беларускую гісторыю...

І вось подлыя забойцы вырвалі яго з нашых змаганскіх радоў. Ягонае цэннае і так патрэбнае для нас жыцьцё перарвалі пабандыцку, стрэлам з-за вугла, як толькі умеюць жыды і бальшавікі, гэтыя азіяцкія вырадкі.

Паховіны Вацлава Іваноўскага, якія адбыліся 11 сьнежня 1943 году, сталіся вялізарнай маніфэстацыяй усяго беларускага Менску супроць подлых забойцаў. З усіх куткоў Беларусі зьехаліся прадстаўнікі, каб разьвітацца са старэйшым беларускім адраджэнцам і асьветнікам.

Страляючы у нашага сэньёра, у нашага дарагога Бацьку, бальшавікі паслалі стрэл у сэрца Беларускага народу. Але народ несьмяротны, яго гэтым не заб'еш. На зьмену паўшым прыйшлі і прыйдуць новыя ваякі, і змаганьне пойдзе далей упорыста і няўтомна, аж да ганаровае перамогі. Сьціплыя зерняткі, засеяныя першымі беларускімі адраджэнцамі, далі пышны усход і буйна закаласіліся. Не згасіць ужо ворагу нашую зару! А за ягоны ганебна-подлы і агідны злачын, за пралітую кроў лепшых сыноў Беларускага народу,—ён адплаціць нам сваёй чорнай крывёю.

Хай яшчэ ляжа трупам некалькі гэрояў, хай шматпакутная Бацькаўшчына прыймець яшчэ некалькі ахвяраў сваіх найлепшых сыноў,—але яны ня будуць дарэмныя: з іх вырасьце воля і будучыня Беларусі.

Прысягаем—і станецца так!

# БУДЗЕШ ВЕЧНА ЖЫЦЬ МІЖ НАС

Вянок на магілу
Вацлава Іваноўскага.

Цёмная сіла рынулася на нас з зацятымі зубамі, з шалёнай пенай і лютай злосьцю... Хоча штурмам узяць наш горды бастыён! Каб вольным сыном Беларусі зноў надзець на шыю ярмо ганьбы!..

**НІКОЛІ!**

Над намі вольна, радасна і спакойна узьвіваецца родны бел-чырвона-белы сьцяг. Злыдням, што на нас шчэрацъ зубы, мы кідаем сваё пераможнае:

**ЖЫВЕ!**

Мы не баімся іхнага штурму. Беларусь засланілі грудзьмі, і аб сталь нашых сэрцаў, аб граніт нашай волі разаб'ецца варожая сіла і пераможам:

**МЫ!**

Вораг знае, што ягоны канец блізка, і таму лютуе, покуль можа.

У бясьсільнай злосьці ён забраў ад нас Цябе, нашага Штандаровага.

Калі загрымелі гарматы, вяшчуны нашага Вызваленьня, Ты прыйшоў, наш найстарэйшы Будзіцель і спрацаваны Асьветнік, каб скромна ахвяраваць сваю рэшту сілаў для свайго народу. Мужна стаяў Ты на становішчы, не баяўся варожых стрэлаў і не шкадаваў сябе для дабра справы. І на службе Беларусі Ты аддаў сваё жыцьцё. У Тваёй асобе нас пакінуў добры і разумны Бацька.

Зрадніцкай рукою вырваны з нашых радоў, Ты адыйшоў у вечнасьць, як Герой. Тваю ахвяру прыняла Бацькаўшчына. Дык Ты ня згінуў!

**ХТО ПАМІРАЕ ДЛЯ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ, ТОЙ ВЕЧНА ЖЫВЕЦЬ У НАРОДЗЕ!**

Над Тваёй дамавінай трымае вечную варту маладая Беларусь. Старое памірае—моладзь расьце, дужэе—і перамагае! Будучыня належыць нам і мы яе

**ЗДАБУДЗЕМ!**

Хай вораг не трыумфуе,—хай дрыжыць: на нашых сьвятых сьцягох ужо запісаная перамога! За кроў ахвярную

**АДПОМСЬЦІМ!**

Ты-ж, Герой, Працаўнік і Змагар, будзеш вечна жыць між нас і з вышыні нашых штандараў весьці нас да перамогі. За нашую волю і будучыню! З нашым магутным клічам:

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

# МЫ І БАЛЬШАВІЗМ

Бальшавізм — гэта не прадукт беларускае душы, а зусім чужы і вельмі шкодны для яе твор. Ідыётычная тэорыя жыдоўскага рабіна Маркса знайшла сабе добры грунт у нетрах анархічнае, сукрытае, жорсткае і зьменлівае расейскае душы, узгадаванай у падволжскім стэпе і уфармаванае з супярэчлівых расавых элемэнтаў: славянскага, фінскага і татарскага, і нарэшце вылілася у форму вялікае катастрафальнае пошасьці, якая пагражае сяньня усёй культурнай Эўропе.

Калі хвалі бальшавізму дакаціліся да межаў Беларусі, дык рэакцыя была дваякая. Насамперш, наш вякамі прыгнечаны народ ня мог не адгукнуцца на вызвольныя рэвалюцыйныя клічы. Ён хацеў скінуць з сябе чужа-нацыянальнае ярмо і пазбыцца страшэннага сацыяльнага прыгнёту. Гэта зразумела і зусім справядліва. Але калі наш народ згледзіў, што бальшавізм зьяўляецца разбуральнаю сілай і нясе жыдоўскае панаваньне і зьнішчэньне нашаму сялянству, якое зьяўляецца асноўным ядром Беларускага народу, дык тады рэвалюцыйнасьць беларусаў пайшла у іншым кірунку: адсэпараваньня ад Маскоўшчыны і абвешчаньня незалежнае дэмакратычнае Беларускае Народнае Рэспублікі. Што ідэя БНР ня была толькі думкаю маленькае кучкі беларускай адраджэнскай інтэлігенцыі, аб гэтым сьветчыць хаця-б масавае Слуцкае паўстаньне 1920 г., якое узварухнула шырокую масу сялянства на змаганьне з бальшавіцкай анархіяй і тэрорам. Змаганьне Беларускага народу супроць бальшавізму на гэтым ня скончылася. Ішоў доўгі партызанскі супраціў савецкай уладзе, які кончыўся слаўным эпізодам працэсу Лістапада і ягоных староньнікаў, агульна ведамы у гісторыі. Дык-жа зусім ясна, што Беларускі народ доўга змагаўся супроць жыда-бальшавіцкай улады, але вытрымаць гэтае цяжкое і няроўнае змаганьне ня мог: яго перамагла сіла, і тады пачалося «іхнае» панаваньне.

Лічачыся з уздымам нацыянальнае сьведамасьці беларусаў, бальшавікі ужылі спэцыяльную тактыку да нашага народу. Каб прыцягнуць да сябе сымпатыю беларускай інтэлігенцыі, яны абвесьцілі «незалежную» Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку і павялі быццам талеранцыйную нацыянальную палітыку. Але тут скрываўся іхны пэрфідны цынізм. Яны на самай справе не жадалі ніякага уздыму нацыянальнае Беларусі, а іхная пачаткавая нацыянальная палітыка была толькі тым самым, чым быў НЭП у эканамічных дачыненьнях ці «прышчэпаўшчына» у дачыненьні да нашага сялянства. Пайшла вялікая прапаганда і спэкуляцыя на беларускай мове і культуры. Сталася хутка так, што за межамі СССР пачалі думаць, што «у Радавай Беларусі запраўды будуецца беларускі дом», і шмат беларускіх грамадзкіх і культурных дзеячоў самахоць панесьлі свае галовы у бальшавіцкую пастку. А там, у БССР, крычэлі подлую хлусьню аб тым, што цяпер Беларусь «упяршыню расьцьвіла як дзяржава» — дзякуючы надзвычайным клопатам і апецы бальшавіцкага ураду і вялікага бацькі і прыяцеля Беларускага народу, геніяльнага Сталіна. Аб тым, што гэта была у запраўднасьці больш рэспубліка для жыдоў, чымся для беларусаў, ніхто і не заікнуўся...

Дык-жа найбольшы зьдзек бальшавізму над нашым народам палягаець у тым, што яны паставілі сябе у ролі апякуноў, якія быццам з-пад зямлі «выкапалі» Беларускі народ, які дагэтуль ня меў ні свае дзяржавы, ні культуры, ні гісторыі (!). Старую і слаўную гісторыю Беларусі яны ігнаравалі, а пачыналі яе ад — 1919 году!.. Усё-ж старое, гістарычнае было для іх праклятае, цёмнае і агіднае. Ад народу стараліся адабраць нацыянальную пляцформу і жывамоц дачапіць яго да «брацкае бальшавіцкае Расеі» — старая імпэрыялістычная царская палітыка пад новым чырвоным плашчом! Гэтак яны зьдзейсьнілі прынцып «самавызначэньня»...

Беларусь апынулася пераважна у жыдоўскіх руках. Ня будзем ужо гаварыць аб эканамічным жыцьці: гандаль і рамяство былі у нас заўсёды жыдоўскай непадзельнай дамэнай і «прывілеем». Цяпер-жа да гэтага дайшло яшчэ і палітычнае кіраваньне, і культурная праца, якія — што за зьдзек і нахабства! — хутка былі цалкам апанаваныя жыдамі. У гэтым няма ніякага дзіва: жыды, як заўсёды эканамічна мацнейшыя, спаяныя нацыянальнай сьведамасьцяй і салідарнасьцяй і прывыкшыя жыць паразытамі на чужым карку, кінуліся туды, дзе бачылі найлепшыя умовы, каб прафітаваць за кошт нашае нясьведамасьці, неарганізаванасьці і бяздарнасьці і забясьпечыць сваё палітычнае і эканамічнае становішча на будучыню. Гэтакія былі вынікі «расавае і нацыянальнае раўнапраўнасьці» на Беларусі!

Не прызнаючы беларускае гісторыі і самастойнасьці Беларускага народу і выходзячы з інтэрнацыянальна-пралетарскага гледзішча, бальшавікі не жадалі і баяліся разьвіцця самароднае беларускае культуры, таму, хоць яны спачатку і далі былі (з тактычных меркаваньняў) сякія-такія магчымасьці ейнага разьвіцьця але пазьней (пачынаючы з 1929 г.) пачаўся жорсткі культурны прыгон. Паводля лёзунгу: «культура нацыянальная формай, сацыялістычная зьместам», была абвешчаная вайна усей запраўднай беларускай нацыянальнай культуры. Месца беларускага пісьменства мелі заняць перакладаныя з расейшчыны томы клясыкаў марксізму-ленінізму. Літаратура, музыка і мастацтва мелі права толькі «адлюстроўваць у стылі сацыялістычнага рэалізму дасягненьні эпохі запраўднага сацыялізму» — нічога больш, нічога «клясавага чужога»! Нават сама мова — тое, што мала становіць «нацыянальную форму» культуры — была скалечаная рэформаю 1934 г. і штучна падагнаная на расейскі капыл. Аставаўся адзін пачварны жыдоўска-бальшавіцкі жаргон, і той — як непатрэбная рэч — паволі,

але пасьлядоўна выцясьняўся з ужыцьця «агульназразумелай» расейшчынай.

Зрабіўшы гэткія далёкія крокі дзеля «упарадкаваньня» і «разьвіцьця» беларускае культуры, бальшавікі абрэзалі і сам народ да патрэбнае ім меркі. Тых, хто пад гэтую марку не падыходзіў, — сьведамую інтэлігенцыю і здаровае працавітае сялянства — яны зьнішчылі. Ня трэба тут амаль успамінаць пратыя вялікія хвалі перасьледваньняў, якія у 1930, 1933 і 1937 г.г. забралі ад нас амаль увесь цьвет беларускай інтэлігенцыі пад мянушкаю «нацдэмаў» і «ворагаў народу». Гэта была крывавая апэрацыя на жывой душы і целе Беларускага народу, і гэты выпуск крыві балюча адбіваецца на нас сяньня. Чаму адбываліся гэткія дзікія расправы над беларускай інтэлігенцыяй, ясна: з Беларускага народу хацелі зрабіць шэрую паслухмяную стаду авечак, якую мелі-б паганяць і кіраваць жыды і бальшавікі. Гэтай стадзе ня былі-б патрэбныя ні свае нацыянальныя правадыры, ні свая нацыянальная культура: з іх маглі-б яшчэ — Божа барані! — Вырасьці фэрмэнты сэпаратызму ці адраджэньня...

З усяго гэтага відаць, што Беларускі народ быў засуджаны жыда-бальшавізмам на нацыянальную сьмерць. З гэтым ня крыліся нават і самі бальшавікі, гэта пазналі і пацьвярджаюць сяньня і тыя з-паміж б. саветчыкаў, якія апынуліся з гэтага боку фронту і убачылі і зразумелі аб'ектыўную праўду. Бальшавікі выступаюць з разьлічаным на цёмныя нясьведамыя масы дэмагагічным і абсурдняльным пытаньнем: «Што за розьніца, хто я—расеец, украінец, беларус ці жыд? Усе людзі роўныя, усе хочуць жыць і маюць на гэта роўнае права. Мова — справа другарадная, гавары, як умееш, абы мы маглі зразумець адзін аднаго, мова не павінна засланяць сабой клясавае сутнасьці нацыяналізму, і г. д., і г. д.» — Вось тут і давядзі бальшавіцкаму агітатару, што калі усе людзі роўныя, дык чаму-ж гаспадарамі над беларусамі павінны быць жыды? Пралетарская салідарнасьць у расейскім выкладзе зьяўляецца — як паказала практыка апошніх 25 гадоў — толькі чырвоным расейскім імпэрыялізмам, прыкрытым рознымі ашуканскімі слоўцамі. Для меншага паводля ліку, менш сьведамага і слаба спаянага нацыянальнай традыцыяй народу заўсёды пагражае растварэньне у народзе большым і больш сьведамым. Гэта і было-б з намі у бліжэйшы час, да гэтага мы набліжаліся хуткім крокам, бо да гэтага імкнулася уся жыда-бальшавіцкая нацыянальная палітыка на Беларусі.

Але апрача нацыянальнае сьмерці нам пагражала яшчэ другая, можа страшнейшая небясьпека: фізычная дэгэнэрацыя і зьнішчэньне. Руйнуючы самастойнае беларускае сялянства праз палітыку калгасаў і сыстэму высылак і цяжкое працы, жыды і бальшавікі адсякалі натуральныя карэньні, якімі Беларускі народ стагодзьдзямі чэрпаў жывыя сокі з народнае глебы. Тэй самай мэце «пралетарызацыі» і «інтэрнацыяналізацыі» Беларусі служыла штучная, ня выкліканая ніякаю палючаю патрэбаю празьмерная урбанізацыя і індустрыялізацыя краю. Беларусь мела хутка ператварыцца у звычайную «пралетарскую правінцыю» «першай у сьвеце дзяржавы працоўных гораду і вёскі». Беларусы павінны былі стацца бясполым прагноем для пралетарскае культуры, маральнасьці і быту на «адной шостай зямное кулі». А тыя, што уздрыгаліся перад гэткім сумным лёсам свайго народу, угнаілі сваймі касьцямі сьнежныя палі Салоўкаў, тайгі Сібіру і пяскі Казахстану...

У верасьні 1939 г. да БССР была далучаная і Заходняя Беларусь. Гэтая падзея адбылася з вялікім прапагандовым шумам і жыдоўскім вэрхалам аб тым, што «заходнім братом» пададзеная цяпер «брацкая рука дапамогі». На самай справе дзікі бальшавіцкі тэрор і зьдзек цяпер пашырыўся на усю Беларусь і ужо не аставалася нідзе больш ніякай вольнай базы беларускасьці — усё апынулася у «далікатных» руках жыдоў і НКВД, якія зараз-жа узяліся пашыраць свае «узгадавальныя мэтады» на «вызваленых братоў».

Праз шматгадовае і сыстэматычнае няміласэрнае выкарчоўваньне сьведамай беларускай інтэлігенцыі і больш апорных адзінак, праз сталую аднабокую бальшавіцкую прапаганду, спалучаную з хлусьлівым і некарысным асьвятленьнем усяго небальшавіцкага «вонкавага» сьвету і праз бальшавіцкае узгадаваньне маладога пакаленьня бальшавіком удалося запраўды дасягнуць вялікіх вынікаў у апрацоўцы у патрэбным для іхнага рэжыму і згодным з іхным сьветаглядам кірунку сваіх грамадзянаў. У Саветах вытварыўся свой асобы тып людзей-аўтаматаў, бязвольных і паслухмяных уладзе, якіх цяпер бальшавіцкія камісары фанатызуюць на сьмяротнае змаганьне за «савецкую радзіму» і ейныя «сацыялістычныя дасягненьні». Гэта ужо проста новая людзкая раса, якая мае сваю асобую псыхіку, законы маральнасьці і культурна-бытавыя патрабаваньні і густ, якія, як зямля ад неба, адрозьніваюцца ад усяго таго, што называецца бытам, маральнасьцяй і культурай у Заходняй Эўропе. З гэтымі людзьмі у заходня-эўрапэйскага цывілізаванага чалавека ня можа быць нічога супольнага, бо яны адчуваюць нейкую невытлумачальную пагарду і нянавісьць, якую здольны мець толькі пакрыўджаны лёсам і сьведамасьцю свае ніжэйшасьці нявольнік, да усяго вольнага, прыгожага і высокага, як да «буржуазных забабонаў». Але бедны і годны палітаваньня той, хто усё недасягальнае для яго абкідае мужыцкай лаянкай і бясьсільнаю пагардай!

Пасьля усіх гэтых разважаньняў нас проста бярэ жах на думку, што чакала наш народ. Рэч зусім ясная: яшчэ 15—20 год — і Беларускага народу ужо-б ня было. Ён растварыўся-б у інтэрнацыянальнай масе «савецкага народу», страціў-бы сваю расавую чысьціню і прыродныя рысы свае здаровае нацыянальнае душы, якая можа жыць толькі у здаровым нацыянальным целе, стаўся-б гноем для жыдоўскіх паразытаў. Ад багатае самароднае беларускае культуры не асталося-б ніякага сьледу, хоць мо' яшчэ-б нейкі час бальшавіцкія агітатары і крычэлі аб росквіце

культуры «нацыянальнае формаю, сацыялістычнае зьместам». Нарэшце і гэтая вылучаная форма сталася-б непатрэбнай: беларускую мову (якая ужо, як сяньня бачым, дзякуючы хітрай і подлай палітыцы у справе мовы ува урадах, у прэсе і у школьніцтве, пачала рабіцца непатрэбнай і хутка рэдукавалася на карысьць расейшчыны) замяніла-б расейская (ці мо' вынаход жыда Замэнгофа—штучнае Эспэранто?). Да усяго гэтага даходзіла-б фізычная дэгэнэрацыя і маральны упадак моладзі, расклад сям'і, калгасны прыгон сялянства і стаханаўскае ашуканства работнікаў, а над усімі імі — жыдоўскае панаваньне...

Гэткая сумная пэрспэктыва нашага народу пад жыда-бальшавіцкай уладаю ніколі не магла цешыць сьведамых беларускіх працаўнікоў і змагароў, шчырых і ахвярных сыноў Беларусі. Таму і мы ніколі не пакідалі змагацца з гвалтам і зьдзекам. Тым больш цяпер, калі для нас залунала зорка вызваленьня, цешымся з гэтае магчымасьці нацыянальнага адраджэньня і, дарма што вялікія цяжкасьці і няпэўнасьць заўтрашняга дня, няўтомна працуем і змагаемся.

Наш шлях у будучыню — гэта не БССР, а нацыянальная Беларусь, раўнапраўная з усімі іншымі народамі Новай Эўропы. Вялікая і цяжкая школа жыцьця навучыла нас розуму і ужо няма больш наіўных, якія-б паверылі бальшавіком. Мы павінны змагацца і перамагчы — або згінуць, але не аддацца жывымі у катоўскія рукі.

У сувязі з гэтымі разважаньнямі стаіць і пытаньне: ці можна падазраваць і вінаваціць Беларускі народ у сымпатыі да бандытызму і уважаць за шкодны элемэнт раскладу і хаосу у нашай частцы новаэўрапэйскага фронту?

Бандытызм, як вынік і плод бальшавізму, чужое і варожае беларускай істоце зьявы, ня можа быць і не зьяўляецца беларускаю зьяваю. Наш народ сам церпіць ад бандытаў і тэрарызуецца імі і мае найлепшую волю змагацца з гэтым злом. Нашы аддзелы СС, паліцыя і Самаахова зьяўляюцца жывымі сьветкамі, што гэтая воля зьдзейсьніваецца у рамках магчымага. Каб поўнасьцю выкарыстаць гэтыя імкненьні нашага народу да самаабароны, яму патрэбная адпаведная арганізацыя і сільнае кіраўніцтва.

Жыды, бальшавікі і бандыты — нашыя сьмяротныя ворагі. Гэта мы добра ведаем, а яны таксама знаюць той доўгі рахунак нашых крыўдаў, сьлёзаў і ахвяраў, які яны павінны сплаціць нам сваёй паганай крывёю. У гігантычным змаганьні, якое сяньня адбываецца паміж мужнымі арміямі Новай Эўропы і цёмнымі сіламі жыдоўска-бальшавіцкае навалы, наш Беларускі народ або здабудзе сабе мейсца у вольнай Новай Эўропе, або будзе раз назаўсёды закаваны ланцугамі і пойдзе у жыдоўскі палон, каб у муках іхнае біблійнае помсты зьнікнуць з твару зямлі, якая ужо і так багата палітая беларускай крывёю.

*М. Волат*

*Д-р Н. Абрамава*

## „ТВАЕ ЗДАРОЎЕ НАЛЕЖЫЦЬ НАРОДУ“

Ты, чалавек, які прызваны служыць народу,—ці ты належыш да сябе, ці належыш народу?

Калі выклікаецца з грамады годны сябра і даручаецца яму пэўны абавязак, які ён павінен выканаць для народу,—ён павінен гэтым ганарыцца і пачэсна выконваць яго.

Як выконваць?—Увесь свой час аддаць даручанай справе:

а) спачатку дакладна вывучыць самую справу з усіх бакоў,
б) укласьці у справу сваю творчую ініцыятыву, дадаткі, пашырэньне,
в) дакладна і добрасумленна правесьці справу у жыцьцё.

Фармальных адносінаў да абавязкаў быць ня можа!

Кажная хвіліна падлічаная, кажная хвіліна дарагая. Што будзе, калі такі чалавек пачне нядбайна адносіцца да сябе? Калі пачне шкодзіць свайму арганізму разнастайнымі атрутамі: нікатынам—курэц, алькаголем—п'яніца, або зьнясільвае свой арганізм начнымі гулянкамі?

У хуткім часе надрываюцца асновы гэтага арганізму. Усяленая зараза разбурае арганізм і чалавек пачынае хварэць.

Няпрыкметна хвароба адрывае яго ад занятай. То ён ляжыць у ложку, ня маючы сілаў устаць, то атручаны арганізм упадае у благі настрой, адбівае ахвоту да працы і таму, пад уплывам сяброў, чалавек ад працы адхіляецца на усялякія таварыскія спакусы.

Так адхіляецца чалавек ад карыснае працы. Выходзіць са строю.

Цяпер, калі наша краіна на уздыме, кажны чалавек, якога яна адшукала, абрала, паставіла на адказны пост свайго жыцьця—павінен моцна дбаць аб сваё здароўе. Ён павінен ведаць: цяпер адхіліцца ад працы—гэта значыць зрадзіць справу адбудовы свае Бацькаўшчыны.

Няхай ніхто ня скажа: «Пю, бо хачу! Справа мая, шкоджу сабе, а не каму!», або: «Куру, бо хачу! Гэта мая прыватная справа».

Няпраўда! гэта не твая прыватная справа! Ты не абы-хто, табе краіна даверыла пост, хто самавольна зыходзіць з паста—зраднік. Краіна даручыла табе абавязкі і ты мусіш іх несьці з гонарам. Ні на гадзіну, ні на дзень ня маеш права адхіліцца, час шпарка ідзе наперад, а краіна значна адстала. Трэба дапамагчы уздыму яе.

Дык, хто прызваны да адбудоўнае працы, памятай: Тваё здароўе належыць не табе, а народу, і таму асабліва мусіш дбаць аб ім.

*В. Аганёк*

# МЕНСК, СТАЛІЦА БЕЛАРУСІ

У часе існаваньня БССР Менск, ейная сталіца, значна вырас і адыгрываў вялікую ролю, як цэнтр нацыянальнага і культурнага жыцьця, покуль яшчэ гэткія магчымасьці існавалі.

У Менску быў адчынены Настаўніцкі Інстытут, ператвораны хутка у Беларускі Пэдагагічны Тэхнікум, ды вышэйшыя курсы беларусаведы, якія згуртавалі ды узгадавалі шмат культурных працаўнікоў. Увосені 1921 г. быў заснаваны Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт з 3-х факультэтаў. Сярэдняя тэхнічная школа была ператворана у Дзяржаўны Сельска-Гаспадарчы Інстытут, які быў пераведзены у Горы-Горкі, як Сельска-Гаспадарская Акадэмія. Унівэрсытэцкая бібліятэка вырастаець у вагульную Беларускую Дзяржаўную Бібліятэку, для якое пабудавалі новы будынак. Ён захаваўся і да сяньня. У 1922 г. працуе Беларуская Тэрміналёгічная Камісія, якая перарасла у Інстытут Беларускае Культуры, ператвораны у 1926 г. у Беларускую Акадэмію Навукаў. З 1923 г. працуе вялікае Дзяржаўнае Выдавецтва Беларусі, дзе згуртаваліся былі значныя беларускія сілы. Пачынае выходзіць часапіс «Полымя», а Літаратурнае згуртаваньне «Маладняк» выдае свой часапіс пад гэткім-жа загалоўкам. Частка маладых пісьменьнікаў, якія імкнуцца паставіць беларускую літаратуру на эўрапэйскую вышыню і змагаліся за чысьціню беларускае мовы, згуртавалася у сваім літаратурным гуртку «Узвышша» і выдавала свой часапіс: Дубоўка, Пушча, Бабарэка, Кузьма Чорны, Антон Адамовіч і інш.

Пачынаючы з 1930 г. у Менску адчыняецца яшчэ некалькі вышэйшых навучальных установаў. Для БДУ быў пабудаваны цэлы унівэрсытэцкі гарадок. Мэдычны і Юрыдычны факультэты ператвораныя у асобныя інстытуты, а далей быў заснаваны Пэдагагічны Інстытут і Палітэхнічны Інстытут. На прадмесьці Камароўка вырас Клінічны Гарадок, будынкі Палітэхнічнага і Юрыдычнага Інстытуту, а у вапошнія гады перад вайною — будынкі Беларускай Акадэміі Навукаў, Дому Друку, Інстытуту Фізкультуры і інш.

Насупраць Унівэрсытэцкага Гарадка пабудаваны за некалькі гадоў самы вялікі будынак у Менску — Дом Ураду, Тэатр Опэры і Балету, на мейсцы зьнішчанае Пакроўскае царквы — Дом Чырвонай Арміі і г. д.

У Менску вырасла вялікая прамысловасьць. Успомнім машына-будаўнічы завод «Энэргія» (пазьней імя Варашылава), б. завод імя Кірава, гарбарню «Бальшавік», вагонарамонтны завод імя Мясьнікова, швэйную ф-ку «Кастрычнік», абутковую ф-ку (ім. Кагановіча), галянтарэйную фабрыку, радыёзавод «Электрыт». Лік рабочых, занятых у прамысловасьці, даходзіў ужо да 15 тыс. чалавек.

Менск атрымаў шмат новых прэзэнтатыўных будынкаў, але жыцьцё звычайнага грамадзяніна было нялёгкае. Гэтыя вялікія будынкі будаваліся дзеля прапаганды, бо праз Менск па дарозе у Маскву часта праяжджалі замежныя госьці і дыплёматы. Затое побач з шыкоўнымі будынкамі стаяць і да сяньня маленькія пакрыўляныя драўляныя хаткі, абшарпаныя запушчаныя муры. У іх жылі бітком набітыя простыя работнікі. Вось гэтая страшэнная стракатасьць і зраджае запраўдныя імкненьні бальшавікоў, хоць яны і шмат крычэлі аб сваіх «дабрадзействах» для нашае сталіцы.

Вайна 1941 г. страшэнна зьнішчыла горад. Уся цэнтральная частка і большасьць вялікіх будынкаў — зьнішчаныя бомбамі ці пажарам. Быццам нейкім цудам захаваліся гэткія будынкі, як Дом Ураду, Опэра, Тэатр, Дом Арміі, Музэй, Акадэмія Навукаў, Дзяржаўная Бібліятэка, Дом Друку, ды большыя фабрыкі і заводы. Лік жыхарства, якое перад вайною дасягала 280 тысячаў, цяпер складае каля 130—135 тысячаў.



Касьцёл на Залатой Горцы



Магамэтанская мячэць, пабудаваная у 1902 годзе



Царква на ваенных могілках



Від на катэдру

Але дарма, што гэткае разбурэньне. Менск астаецца любай нашаму сэрцу сталіцай. Ні за якую цану мы не пакінем Беларускага Менску. Усё, што разбурана, адбудуем, а галоўнае — цяпер няма у Менску жыдоў і бальшавікоў і можа свабодна разьвівацца беларускае нацыянальнае, культурнае і эканамічнае жыцьцё.

Праз Менск ідзець у чатыры бакі чыгунка: на Вільню, Баранавічы, Гомель і Воршу. Пасярэдзіне гораду цячэ Сьвіслач. Гістарычная Няміга замянілася усяго у раўчучок, які цячэ па трубах пад вуліцаю Нямігай. На Сьвіслачы, у заходняй частцы гораду, у 1941 г. створанае вялікае штучнае возера, улюбёнае мейсца гульняў мянчанаў улетку. Горад ажыўляе вялікі Гарадзкі Парк над Сьвіслачай, а таксама другі, меншы, ля Гарадзкога Тэатру, ды некалькі меншых сквэраў.

Калі-б мы захацелі разглядзецца па горадзе, дык найлепш распачаць ад Галоўнае вуліцы, якая цягнецца пасярэдзіне гораду больш за 3½ км з паўднёвага захаду на паўночны усход. На паўдні за чыгуначным мастом яна пераходзіць у Варшаўскую, якая пераходзіць далей у шлях на Слуцак, а на поўначы Галоўная вуліца разьвілаваецца на леву — Лагойскі тракт, і праву — Маскоўскую, якая пераходзіць у асфальтаваную шасу на Смаленск.

Паміж шляхам на Слуцак і чыгункаю на Гомель знаходзіцца Паўдзённае лётавішча (аэрадром), а вышэй — раён Пасажырскае станцыі. На захад ад Варшаўскае вуліцы, за Таварнай станцыяй і чыгункай на Баранавічы, знаходзіцца Грушаўскі пасёлак.

Едучы па Галоўнай вуліцы на поўнач, напаткаем з левага боку Чыгуначную царкву, далей Дом Ураду, Чырвоны касьцёл, фабрыку - кухню, крыху воддаль будынак турмы, а суседні узгорак — гэта будзе Высокае места, дзе стаіць Марыінскі касьцёл, а калісьці стаяла ратуша ды Петрапаўлаўскі сабор. На паўночны захад ад Высокага места знаходзіцца даўнейшы гандлёвы цэнтр гораду — Нізкі Рынак, каля якога стаіць г. зв. Жоўтая царква. Паміж Нізкім Рынкам і рэкамі Сьвіслачай і Нямігай стаяў калісьці замак, ад якога сяньня нічога не захавалася. На захад ад Нізкога Рынку і Нямігі цягнецца Татарская Слабодка (Ратамская вуліца), дзе стаіць магамэтанская мячэць, яшчэ далей на захад—прадмесьце Людамонт, а за ім мы натыкаемся на Татарскія могілкі і чыгунку на Вільню. За чыгункаю на Вільню расьцягваецца менская Кальварыя, дзе пры шляху на Ракава знаходзяцца каталіцкія могілкі, на якіх, м. і., пахаваныя У. Казлоўскі і праф. В. Іваноўскі.

З левага боку Галоўнае вуліцы выходзіць шырокая Опэрная вуліца, якая праз мост на Сьвіслачы вядзе нас на Старажоўку. Тут красуецца вялікі будынак Опэры. За старымі могілкамі і ракой Пярэспай, якая адводзіць воды з Камароўскага балота у Сьвіслач, пачынаецца Віленская вуліца, якая пераходзіць у шлях на Радашкавічы і Вільню. Налева ад прадмесьця Пярэспы знаходзіцца штучнае возера на Сьвіслачы, пушчанае у эксплёатацыю у 1941 годзе.

Калі будзем аглядаць Менск з правага боку Галоўнае вуліцы, дык зараз на поўнач ад Пасажырскае станцыі бачым Унівэрсытэцкі Гарадок з паркам. За папярочнаю вуліцай Перамогі ідуць дзьве прыгожыя паралельныя вуліцы, якія завуцца сяньня Камандантурная і Спартовая (бо пры ёй знаходзіцца стадыён). Пры Камандантурнай вуліцы бачым Гарадзкі Тэатар, а з другога боку—будынак



Жоўтая царква



**Ленінская бібліятэка і сяньня дом Беларускае Цэнтральнае Рады**



**Менскі Беларускі Гарадзкі Тэатр**

Гэнэральнага Камісарыяту Беларусі. Далей пры Галоўнай вуліцы справа бачым Музэй, а воддаль— Дом Арміі і Бібліятэку, занятую сяньня пад іншыя мэты. Перад мостам праз Сьвіслач стаіць другая электрастанцыя, а за Сьвіслачай расьцягваецца вялікі Гарадзкі Парк.

Разглядаючы усходнюю частку гораду, знаходзім у вялікай пятлі Сьвіслачы прамысловую Ляхаўку, дзе згрупаваліся большыя заводы Менску. На усход ад Ляхаўкі ідзе Магілеўская шаса. Паміж Сьвіслачай і чыгункаю на Гомель расьцягваецца Козырава, а далей Серабранка. Чэрвеньскі тракт ідзе на Чэрвень і на Бабруйск. На усход ад Менску цячэ рака Сьляпянка, якая упадае у Сьвіслач на поўдзень ад гораду. Яе прасякае чыгунка на Воршу і Смаленск.

Ідучы па Галоўнай вуліцы з другога боку Сьвіслачы, напатыкаем з правага боку г. зв. Залатую

СХЭМАТЫЧНЫ ПЛЯН

гор. Менску

**Важнейшыя аб'екты:** 1. Пасажырская станцыя. 2. Дом Ураду. 3 Гэнэральны Камісарыят. 4. Беларуская Цэнтральная Рада. 5. Дом Арміі. 6. Унівэрсытэцкі Гарадок. 7. Опэра на Траецкай гары. 8. Гарадзкі Тэатр. 9. Чырвоны Касьцёл. 10. Марыінскі касьцёл на Высокім рынку. 11. Палац Піянэраў. 12. Акадэмія Навукаў. 13 Дом друку. 14. Палітэхніка. 16. Інстытут Фізкультуры. 16. Таварная станцыя. 17. Мітрапалітальная царква. 18. Жоўтая царква. 19. Старажоўскія могілкі. 20. Вайсковыя могілкі. 21. Касьцёл сьв. Тройцы. 22. Татарская мячэць. 23. Татарскія могілкі. 24. Гарадзкі парк. 25. Стадыён. 26. Новы стадыён. 27. Батанічны сад. 28. Штучнае возера. 29. Паўдзённае лётавішча.

**Кварталы і прадмесьці:** I. Высокае Места (Пляц Волі). II. Нізкі рынак. III. Камароўка. IV. Старажоўка. V. Пярэспа. VI. Татарская Слабодка. VII. Людамонт. VIII. Кальварыя. IX. Сураж. X. Грушаўскі пасёлак. XI. Раён Пасажырскае станцыі. XII. Козырава. XIII. Ляхаўка. XIV. Серабранка. XV. Прафсаюзны пасёлак. XVI. Бунзэнаўскі пасёлак. XVII. Залатая Горка. XVIII. Выстаўка. XIX. Сьляпянка. XX. ДраздЫ





Менскі палац піянэраў



Агульны від Дому Чырвонай Арміі

Горку, дзе на каталіцкіх могілках стаяў зьнішчаны сяньня касьцёл Сьвятой Тройцы. Даўгабродзкая вуліца вядзе нас на г. зв. вайсковыя могілкі з Аляксандра-Неўскай царквою. Тут пахаваныя Усевалад Ігнатоўскі і Фабіян Акінчыц.

Паўночная частка гораду — гэта прадмесьце Камароўка, якая надта разбудавалася за апошнія гады. З правага боку Маскоўскае вуліцы бачым радыёзавод «Электрыт», Клінічны Гарадок, Акадэмію Навукаў і Стадыён ды Батанічны Сад, з левага — будынкі Фізкультурнага Інстытуту, Палітэхнікі, Дому Друку і інш.

Моцна зьмяніўся быў твар Менску у бальшавіцкія часы, шмат было пабудавана новых вялікіх камяніцаў, жыльлёвых «блёкаў» і публічных будынкаў, ды наогул плянавалася агульная рэканструкцыя гораду са шкодаю для беларускага аблічча нашае сталіцы. Яшчэ больш зьмяніўся Менск цяпер, у ваенную завіруху. Уся сярэдзіна згарэла, тырчаць адны руіны і кучы цэглы, а толькі дзені-дзе захаваліся паасобныя аб'екты. Цэлымі засталіся пераважна драўляныя прадмесьці.

Але Менск ня спускае уніз галавы. Ён змагаецца з цяжкасьцямі ваеннага часу і дбае ня толькі аб тое, як-бы ператрываць вайну, але і аб выкананьне свайго высокага заданьня, як сталіцы краю. Тут працуюць усе вышэйшыя нямецкія і беларускія установы, хоць усе лепшыя будынкі пазайманыя для вайсковых патрэбаў: Гэнэральны Камісарыят Беларусі, Гарадзкі Камісарыят (Магістрат), Менскі Акруговы Камісарыят, СД Беларусі, Цэнтраля Беларускае Самапомачы, Кіраўнічы Штаб Саюзу Беларускае Моладзі, цэнтраля Прафсаюзу, Беларуская Культурная Рада, працуе Менскі Гарадзкі Тэатр (праўда, ён быў узарваны бальшавікамі 22 чырвеня 1943 г. і цяпер рамантуецца), выдаецца «Беларуская Газэта», «Голас вёскі» і нямецкая «Менская Газэта», працуе Менская Радыёстанцыя.

Беларускі Менск скінуў з сябе разам з жыдамі і бальшавікамі чужы пакост і аднаўляе сваё беларускае аблічча. Гэта бачна і звонку, па надпісах і назовах пляцоў і вуліцаў.

Міне ваенная бура — і для беларускае сталіцы наступіць пара вялікай адбудовы. Загояцца усе ейныя раны і яна будзе прыцягваць да сябе усе беларускія сэрцы ня толькі сваім бурлівым нацыянальным і культурным жыцьцём, але і сваім вонкавым прыгожым і багатым выглядам.

## *МАЛАДАЯ МУЗА*

### МОЙ КРАЙ

Мой Край прыгожы, як сьвітаньне,—
Ён повен водгукаў сьвятых,
Ён цешыць сэрца, што каханьне,
Што ўздым віхорны маладых.

Мой Край, з зімы прыбраны беляй,
Сонца разьясьнены сьвятлом,
Разьліўся песьняю, насьпелай
Пад сонечным зямелькі сном.

Мой Край вясной ў чаромхі кветках,
Ў кустох язьміну аджыве,—
Ўзаўецца песьня на палетках,
Далёка Нёмнам паплыве.

Мой Край зарой зардзіцца мглістай,
Калосьсем сьпелым зашуміць,
І над расою срэбралістай
Касойураньні зазьвініць...

Мой Край уздымецца, паўстане
І сьмела выйдзе на прасьцяг,
І там, ля мэты, на кургане
Высока ўзьвее горды сьцяг.

Г. Бузук

### УСТАНЬ, НАРОДЗЕ!

Гэй, народзе, устань, час за волю йсьці у бой,—
ці-ж век хочаш нявольнікам быць?
Лепш жыцьця адзін дзень — залатою вясной,
чымся у путах стагодзьдзямі жыць!
Хто ў няволі ня згніў, — з намі разам, сьмялей!

У руках маладых сяньня сьцяг.
Не пяройдзе ніхто муру з нашых грудзей,—
хіба толькі па нашых касьцях!

Ты, юнацкі наш жар, сэрцы ўсе распалі
маладым і ахвярным агнём,
каб на славе старой Крывічанскай зямлі
Беларусі зрубіць новы дом.

Перамогі вяшчун—вера ў сэрцах жывых,
цемру, зьдзек — разаб'ём грамадой
і для вольных Радзімы сыноў маладых
шчасьце ўласнай здабудзем рукой.

Дык, народзе, устань! Косьці верных сыноў
хай героям лепш крые курган,
чымся муляць ярмо будзе шыю ізноў
і сьмяяцца прыгоньнік — груган!

В. Аганёк



Пастаўскія юнакі маюць свой балетны гурток



Група юнакоў, што брала удзел у сяброўскім вечары

# Беларуская Цэнтральная Рада

21 сьнежня 1943 г. сп. Гэнэральны Камісар, СС—групэнфюрэр і генэрал-лейтэнант паліцыі фон-Готтбэрг выступіў з вялікай праграмовай прамовай перад прадстаўнікамі усіх акругаў і пластоў жыхарства Беларусі і абвесьціў, што дасюлешняя Беларуская Рада Даверу будзе рэканстытуяваная у Беларускую Цэнтральную Раду. За прэзыдэнта Беларускае Цэнтральнае Рады ён вызначыў прафэсара Радаслава Астроўскага. Адначасна сп. Гэнэральны Камісар абвесьціў шэраг мерапрыёмстваў, якія павінны забясьпечыць супакой і мірную адбудову у галіне культуры, школьніцтва і сацыяльнае палітыкі на Беларусі. Прамова была спатканая з вялікім энтузіязмам і перарывалася бурнымі воплескамі прысутных.

Нававызначаны прэзыдэнт Беларускае Цэнтральнае Рады праф. Радаслаў Астроўскі сказаў гарачую, перарываную бурамі воплескаў прамову, у якой, між іншага, сказаў:

«Сяньня сп. Гэнэральны Камісар сваёй дэкларацыяй дае нам новы акт даверу, які адкрывае перад беларусамі ужо даволі шырокае поле для адбудовы зьнішчанага краю, які пакінулі нам бальшавікі, дае магчымасьць поўнай ліквідацыі праклятых калгасаў, якія самастойных гаспадароў ператварылі у безьзямельных жыдоўскіх парабкоў, ды урэшце дае магчымасьць адбудовы зьнішчанае беларускае культуры.

Спадару Гэнэральны Камісар! Ад імя усіх тут прысутных выказваю Вам удзячнасьць за той давер, якім Вы нас абдарылі, і даю урачыстае прырачэньне давер гэты апраўдаць сваёй працай у змаганьні з нашым супольным ворагам—бальшавікамі.

Сябры Беларусы! Сваймі воплескамі Вы пацьвердзілі згоднасьць Вашага погляду з выказанымі мною думкамі і дзеля гэтага заклікаю Вас, а у Вашых асобах увесь Беларускі народ да дружнае супольнае барацьбы аж да канчальнае перамогі. З свайго боку запэўняю Вас, што далажу усіх натугаў, каб выканаць прыняты мной абавязак, і спадзяюся, што далейшая разьвязка беларускага пытаньня пойдзе згодна з інтарэсамі. Беларускага народу—саюзьніка вялікага Нямецкага народу.

Няхай ня думаюць нашыя ворагі, што яны сваім дзікім тэрорам запужаюць Беларускі народ і ён адмовіцца ад барацьбы за свае найдаражэйшыя ідэалы.

Не! Гэта можа давясьці толькі да узрыву народнага гневу, які, як ведама, ані літасьці, ані сэнтымэнтаў ня мае.

Дык на бой, грамадзяне, да пераможнага канца!»

Пасьля урачыстага паседжаньня, якое адбывалася у вялікай залі паседжаньняў Гэнэральнага Камісарыяту, сп. Гэнэральны Камісар прыняў і даручыў адзнакі заслугі 74 асабліва заслужаным прадстаўніком Беларускага народу.

Гістарычны, поўны вялікіх уражаньняў дзень закончыўся адмысловым прадстаўленьнем у нядаўна спэцыяльна адчыненым Менскім Гарадзкім Тэатры.

Дэлегаты разьяжджаліся з поўнай верай, што цяпер зроблены важны крок у разьвязаньні беларускае праблемы у рамках Новай Эўропы, што Беларуская Цэнтральная Рада на чале з папулярным праф. Астроўскім здолее змабілізаваць усе беларускія сілы для канчальнае перамогі над бальшавізмам і будзе першым крокам да канчальнага далучэньня беларусаў да сям'і вольных і раўнапраўных народаў Новай Эўропы.

Б. Аг.

